**МАГІЛЁЎ: ДАЎНІНА І СУЧАСНАСЦЬ**

**ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД І.МАРЗАЛЮКА**

# Як рос горад у XVI-XVIII — ст.ст.? З якіх частак ён складаўся?



У XVI ст. пачынаецца новы якасны этап у развіцці горада. Магілёў развіваецца з нечуваным да гэтага часу дынамізмам і на пачатку XVII ст. становіцца адным з буйнейшых гарадскіх цэнтраў Вялікага Княства Літоўскага.

У XVI ст. адбыліся змены ў сацыяльным статусе Магілёва — горад быў вылучаны са складу воласці і ў 1577-м годзе атрымаў магдэбургскае права. Горадабудаўнічым адлюстраваннем гэтага працэсу стала інтэнсіўнае асваенне прылеглых да замка тэрыторый, узнікненне новых пасадаў, колькасны і якасны рост гарадской забудовы. Так, ужо ў 1604-м годзе тэрыторыя Магілёва складалася з 15-ці соцен. У межах старога горада (Нагорскі пасад) знаходзіліся Астрогская і Нагорская сотні. За імі ва ўсходнім накірунку размяшчалася Ледкаўская сотня. На правабярэжжы Дняпра (Пакроўскі пасад) — Курдзенееўская, Перахрысценская, Слабодская, Грыўлянская, Выганская і Бярозаўская. За Дубравенкай (Задубравенскі пасад) —Папінская, Трысненская, Каскоўская, Дабраслаўская. За Дняпром (Задняпроўскі пасад) — Траецкая і Лупалаўская сотні.

Рост гарадскіх пасадаў з неабходнасцю абумоўліваў стварэнне новых умацаванняў вакол іх. Калі ў сярэдзіне XVI ст. умацаванні ў выглядзе "паркана мескага" меў толькі Стары горад, то ўжо на працягу 1601-1633 г.г. былі скончаны работы па будаўніцтву развітай абарончай сістэмы ўмацаванняў з трох паясоў ліній абароны, праіснаваўшых да пачатку XIX ст.

Першую лінію складаў замак — "Верхні горад" (у рускіх крыніцах XVII ст.), меўшы працягласць умацаванняў 288 сажняў (613 метраў). Другая лінія ўмацаванняў, Кругавы (або Бліжні) вал, працягласцю 680 сажняў (1449 метраў) ахоплівала Стары горад і мела чатыры брамы. Трэцяя лінія абароны — Палявы (Дальні) вал у розны час меў розныя памеры і колькасць брамаў. У канцы XVII ст. ужо мелася 13 брамаў Палявога вала.

У адрозненне ад двух папярэдніх паясоў трэці не з'яўляўся замкнёным ланцугом, а перарываўся ярамі і рэкамі. Ён пачынаўся ад яра Дзебры, перасякаў Дубравенку, яе прыток Струшню і падыходзіў да Дняпра.

Археалагічныя раскопкі сведчаць аб інтэнсіўнасці засялення гарадскіх тэрыторый у гэты час. Культурны слой XVI ст. фіксуецца на тэрыторыі Старога горада, які размяшчаўся ў межах ад сённяшняй Савецкай плошчы да Тэатральнага скверу, дзе ў XVII-XVIII ст.ст. праходзіў Кругавы вал, што аддзяляў Стары горад ад Новага. Найбольшай магутнасцю вызначаецца культурны слой XVII ст. Звяртае на сябе ўвагу вялікая насычанасць слоя кафляй, скуранымі, металічнымі і шклянымі вырабамі. Гэтая акалічнасць тлумачыцца высокай шчыльнасцю забудовы, канцэнтрацыяй на пасадзе будынкаў заможных гараджанаў — купецтва і цэхавай верхавіны.

У другой палове XVI-XVII ст.ст. інтэнсіўна раслі і засяляліся іншыя тэрыторыі. Гэта тычыцца і Шклоўскага пасада, які сфармаваўся ў паўночна-усходнім накірунку ад Нагорскага і з'яўляўся складовай часткай Новага горада. На яго тэрыторыі знаходзіўся працяг Нагорскай і Ледкаўскай сотняў, межы пасада даходзілі да Палявога вала (на левабярэжжы Дубравенкі, паміж сучаснымі вуліцамі Лазарэнкі і Яцына), сучасных вуліц Вялікай і Малой Грамадзянскай, Камсамольскай, Ляпяшынскага, яра Дзебры і Машакоўскай гары.

Вельмі інтэнсіўна ў XVI-XVII ст.ст. ішло развіццё Пакроўскага пасада. У XVII ст. ён ахапіў тэрыторыю паміж правабярэжжам Дняпра і Дзебрай у межах сучасных вуліц Вялікай і Малой Грамадзянскай, 2-й Волі, Ламаносава, часткі Падгорнай, санітарную і зялёную зону гарвадаканала. Культурны слой XVI-XVIII ст.ст. вагаецца ад 0,5 да 2 м у розных частках пасада, ён багаты знаходкамі, іх асартымент не саступае калекцыям са Старога горада (Нагорскага пасада). Знойдзена вялікая колькасць паліхромнай кафлі, вырабаў мелкай пластыкі, паліхромнай і паліванай дахоўкі, рэшткі мураваных камяніц.

Віленскі пасад прымыкаў з паўночна-заходняга боку да Шклоўскага пасада. Найбольш раннія знаходкі датуюцца XVII ст.

Задубравенскі пасад ахопліваў тэрыторыю правабярэжжа Дубравенкі ад яе вусця да горнага завулка. Найбольш раннія матэрыялы адносяцца да другой паловы XVI ст. — кераміка, абутковыя падкоўкі, кафля.

Задняпроўскі пасад быў адным з буйнейшых у горадзе. Ён складаўся з двух вялікіх сотняў — Траецкай і Лупалаўскай. Ён пачаў засяляцца з XV ст. Пасад слаба даследаваны. Большая частка яго тэрыторыі знішчана будаўнічымі кар'ерамі 70-80-х гадоў нашага стагоддзя.

Такім чынам, пісьмовыя крыніцы і матэрыялы археалагічнага даследвання дазваляюць з упэўненасцю казаць, што ў канцы XVI — пачатку XVII ст. горад дасягнуў межаў, акрэсленых трэцяй лініяй умацаванняў. Гістарычныя планы Магілёва сведчаць, што ён не выйшаў за гэтыя межы да канца XVIII ст. Яго плошча ў гэты перыяд складала каля 58 га.

**ТЭСТ**

## Ці ўмееце вы быць шчаслівымі?

У кожнага ў жыцці ёсць моманты, калі адчуваеш сябе шчаслівым. Бываюць і іншыя, калі ненавідзіш сябе і ўвесь свет. Напэўна, інакш і быць не можа... І ўсё ж тайна зайздросціш людзям, якія, у крайнім выпадку знешне, заўсёды выглядаюць задаволенымі, адносяцца да таго, што адбываецца навокал, па-філасофску. А вы да якой катэгорыі належыце? Магчыма, адказаць на гэта пытанне вам дапаможа наступны тэст. Каб даведацца аб гэтым, выберыце, калі ласка, па аднаму з трох варыянтаў адказаў

**1. Калі часам задумваецеся над пражытымі днямі, прыходзіце да высновы, што:**

а) усе было хутчэй дрэнна, чым добра;

б) было хутчэй добра, чым дрэнна;

в) усё было выдатна.

**2. У канцы дня звычайна:**

а) незадаволены сабой;

б) лічаце, што дзень мог быць і лепшым;

в) адыходзіце да сну с пачуццём задаволенасці.

**3. Калі глядзіце ў люстэрка, думаеце:**

а) о, час бязлітасны!

б) а што, зусім яшчэ нядрэнна;

в) усё выдатна.

**4. Калі даведаецеся пра значны выйгрыш некага са знаёмых, думаеце:**

а) мне ніколі не пашанцуе;

б) чаму ж не я?

в) аднойчы так пашанцуе і мне.

**5. Калі пачуеце па радыё, даведаецеся з газет аб нейкім няшчасным выпадку, гаворыце сабе:**

а) вось так аднойчы будзе і сам мною;

б) добра, што мяне гэта ліха абышло;

в) гэтыя рэпарцёры наўмысна нагнятаюць страх.

**6. Калі ўстаеце раніцай, часцей за ўсё:**

а) ні аб чым не хочацца думаць;

б) узважваеце, што дзень новы вам рыхтуе;

в) задаволены, што пачаўся новы дзень і магчымы новыя сюрпрызы.

**7. Думаеце пра вашых таварышаў:**

а) яны не настолькі цікавыя і спагадлівыя, як хацелася б;

б) вядома, у іх ёсць хібы, але ў цэлым яны даволі цярпімыя;

в) цудоўныя людзі.

**8. Параўноўваючы сябе з іншымі, прыходзіце да высновы, што:**

а) мяне недаацэньваюць;

б) я не горш за іншых;

в) я годны быць лідэрам і гэта, бадай, прызнаюць усе!

**9. Калі ваша вага павялічыцца на 4-5 кг:**

а) упадаеце ў паніку;

б) лічаце, што ў гэтым няма нічога незвычайнага;

в) тут жа пераходзіце на дыету і ўзмоцнена займаецеся фізычнымі практыкаваннямі.

**10. Калі вы прыгнечаны:**

а)клянеце лёс;

б) ведаеце, што дрэнны настрой пройдзе;

в) стараецеся весяліцца.

**Кожны адказ "а" — 0 балаў, "б" — 1 бал, "в" — 2 балы.**

**17 — 20 балаў:** вы такі шчаслівы чалавек, што не верыцца, быццам такое магчыма! Радуецеся жыццю, не звяртаючы ўвагі на непрыемнасці і нягоды. Вы чалавек жыццярадасны, падабаецеся іншым сваім аптымізмам, але... Ці не дужа павярхоўна і лёгка адносіцеся да ўсяго, што адбываецца? Можа, крыху цвярозасці і скептычнасці вам не пашкодзіць?

**13 — 16 балаў:** відаць, вы "аптымальна" шчаслівы чалавек, і радасці ў вашым жыцці болей, чым смутку. Вы добры, спакойны, у вас цвярозы склад розуму і лёгкі характар. Не панікуеце, сутыкнуўшыся з цяжкасцямі, сустракаеце іх мужна. Навакольным людзям з вамі зручна.

**8 — 12 балаў;** шчасце і няшчасце для вас выражаюцца вядомай формулай "50/50". Калі захочаце схіліць чашу вагаў на сваю карысць, старайцеся не пасаваць перад цяжкасцямі, абапрыцеся на сяброў, не пакідайце іх у бядзе.

**0 — 7 балаў:** вы прызвычаіліся на ўсё глядзець скрозь "чорныя акуляры", лічаце, што лёс наканаваў вам долю чалавека няўдачлівага. Старайцеся больш часу праводзіць разам з вясёлымі, аптымістычнымі людзьмі. Добра будзе, калі вы чым-небудзь захопіцеся (знойдзеце сабе хобі).

Пераклаў з польскай Ю.ДЗЕГЦЯРОЎ



### ПЕРАКЛАДЗІЦЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Трещалка (зоол). 8. Боковушка. 10. Знание. 11. Тяжеловоз. 12. Нутряное сало (свиное). 15. Крыша. 16. Каратель. 17. Убеждение. 20. Совещание. 22. Молитва. 23. Боярышник. 24. Ткань. 25. Образец. 28. Лихо. 29. Властелин.

**ПА ВЕРТЫКАЛИ:** 1. Вкус. 2. Забор. 3. Гадость. 4. Метель. 5. Нажим. 6. Вредитель. 9. Согласование. 13. Клин (с-х). 14. Источник. 18. Разведение (животных). 19. Лязг. 21. Отбросы. 22. Пиджак. 26. Собрание (произведений). 27. Шкаф.

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАСЛОЎ, АПУБЛІКАВАНЫ Ў МІНУЛЫМ (26) НУМАРЫ ТЫДНЁВІКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Векавуха. 8. Братавая. 9. Багун. 10. Вэлюм. 11. Пагалоска. 15. Агрэст. 18. Лазіна. 19. Зарапад. 20. Бугай. 21. Залік. 24. Знаёмец. 26. Крушня. 27.Кладка. 31. Блытаніна. 33. Рабро. 34. Дудар. 35. Поўдзень. 36 Недарэка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Перавага. 2. Матуз. 3. Ахапак. 4. Дружка. 5. Фацэт. 6. Канюшына. 12. Ляжак. 13. Аскубанне. 14. Наваколле. 16. Паданне. 17. Закалец. 22. Вёска. 23. Градабой. 25. Скуранка. 28. Хлусня. 29. Знавец. 30. Груда. 32. Футра.




Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



Кошт аднаго асобніка газэты ў гандлі праз сістэму Саюздруку — 2.000 рублёў. У свабодным продажы і ў грамадскіх распаўсюджвальнікаў — па дамоўленасці.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 27. Тыраж 2100 асобнікаў.